


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

4 жніўня 2000 года
№ 31 (276)
Цана ў розніцу 80 рублёў




## Навіны рэгіёна

### За канадскія грошы

**ВАЛОЖЫН**. 144 жыхары раёна атрымалі 370 прадуктовых набораў ад раённага Чырвонага Крыжа.

У ліку атрымальнікаў былі хворыя на туберкулёз, адзінокія старыя людзі, круглыя сіроты, малазабяспечаныя сем'і, а таксама людзі, якія вызваліліся з месцаў пазбаўлення волі, і пагарэльцы.

Кошт кожнага прадуктовага набору – 5900 рублёў. Грошы на гэта выдаткаваў канадскі Чырвоны Крыж.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Шукаюць успаміны пра касцюмы

**АШМЯНЫ**. У раён прыехала супрацоўніца Беларускага інстытута праблем культуры **Ірына Смірнова**. Мэтай трохдзённага наведвання стаў збор успамінаў пажылых жанчын аб мясцовым касцюме.

Госця наведала Гальшанскі, Навасёлкаўскі, Барунскі сельсаветы. Сабраны матэрыял увойдзе ў шасцітомнік "Анталогіі традыцыйнай культуры беларусаў".

**Аляксандр КАРАНЕЎСКІ.**

### Міжнародны пленэр імя Ф. Рушчыца

**ВАЛОЖЫН**. Сёння пачнецца першы міжнародны пленэр імя Фердынанда Рушчыца (1870 - 1936), мастака, аўтара славутага палатна «Зямля», акадэміка Варшаўскай акадэміі мастацтваў. Ён нарадзіўся ў Багданаве на Валожыншчыне.

Збяруцца мастакі з Беларусі, Польшчы, Літвы. Абяцаў прыехаць сын "імяніннніка" і яго ўнук – таксама Фердынанд. Пленэр будзе праходзіць 10 дзён.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Спажыўкааперацыя збірае лісічкі

**АСТРАВЕЦ**. Нарыхтоўкай чарніц і лісічак у раёне займаецца, у асноўным, кантора спажыўкааперацыі. Хаця чарніц урадзіла менш, чым звычайна, нарыхтавана іх 34 тоны. Здаюць актыўна і лісічкі, нягледзячы на тое, што цана за іх зменшылася. Грыбоў назапашана 24 тоны.

**Аддзел інфармацыі.**

### Адкрыўся грыбаварны пункт

**СМАРГОНЬ**. Сольскі завод для сушкі агародніны ўзнавіў стары промысел – у вёсцы Дзевятні адкрыўся грыбаварны пункт. Варкай займаецца **Наталля Усаевіч**. Як вынік – пачаўся выпуск салянкі з грыбамі. За грыбы плацяць "натурай" – цукрам.

Раней, чым звычайна, завод пачаў нарыхтоўваць яблыкі. Назапашана ўжо 25 тон. Нарыхтоўчая цана – 150 рублёў за кілаграм. Пачаўся выпуск павідла і кампанента да соусу "Краснадарскі".

**Тарэза КУМІШЧА.**

### Ліміт на паліва застаецца

**ВІЛЕЙКА**. Начальнік аддзела эксплуатацыі мясцовага аўтапарка **Сяргей Цярлюк** расказаў, што запазычанасць за паліва складае прыкладна 6,5 мільёна рублёў (вясной яна дасягала 26 мільёнаў). Гарадскія аўтобусы ходзяць па скарочаным графіку (10 аўтобусаў замест 14).

Застаецца і ліміт на паліва: у дзень выдзяляецца па 500 літраў бензіну і дызельнага паліва, што складае палову ад нормы. Гэтая мера адбіваецца, у першую чаргу, на руху прыгарадных аўтобусаў.

Заработную плату ў аўтапарках выплацілі ў поўным аб'ёме і своечасова.

**МАЛАДЗЕЧНА**. Як паведаміў намеснік начальніка аўтапарка па кадрах **Юрый Лазар**, запазычанасць за паліва пагашаецца кожны дзень, па горадзе ходзіць запланаваная колькасць аўтобусаў.

**Аддзел інфармацыі.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 5 жніўня**

**Мінск**
14 - 17°C (уначы)
24 - 25°C (удзень)



**Вільня**
12°C (уначы)
22°C (удзень)



**Нядзеля, 6 жніўня**

**Мінск**
14 - 15°C (уначы)
24 - 26°C (удзень)



**Вільня**
14°C (уначы)
23°C (удзень)



# «Спадарожнік» "прыгаварылі"

## Пяць мільёнаў рублёў каштавала заводу «Спадарожнік» незаконнае скарачэнне работніц

**У мінулую пятніцу завяршылася пасяджэнне гарадскога суда, які вёў Сяргей Літвіновіч, па исках шаснаццаці работніц радыёзавода "Спадарожнік", дзе яны абскарджвалі незаконныя, на іх погляд, звальненні з прадпрыемства.**

Першага чэрвеня 37 работнікаў былі без запрашэння ў аддзел кадраў завода, дзе ім прапанавалі напісаць заявы аб звальненні па скарачэнні штатаў без адпрацоўкі. Усе так пішуць, – адказвалі кадравікі на пытанні аб магчымых варыянтах звальнення.

Жанчыны, а звальнялі менавіта іх, многія з якіх адпрацавалі на прадпрыемстве па колькі дзесяткаў год, "пісалі як усе". А калі адумаліся, то былі за прахадной. На завод не пускалі. Нават вырашыць непазбежныя ў такіх сітуацыях справы. Не глядзелі на тое, што выкідваліся за прахадную не горшыя прадстаўніцы працоўнага калектыву: некаторыя прызнаныя ветэранамі прадпрыемства, партрэты іх неадназова змяшчаліся на дошку гонару.

Калі кінуліся шукаць завадскога юрыста, то ў таго аказаліся больш важныя справы: атрымаўшы прызначэнне на пасаду кіраўніка аддзела кадраў, пераязджаў з кабінета ў кабінет.

Пазней, пасля кансультацый у інспекцыі па працы і з юрыстам з гарадской канторы, завадчанкі вырашылі, што вартыя больш, чым тое, у што іх ацанілі на родным калісьці "Спадарожніку". І растлумачыць павінны былі парадак звальнення, і на завод пускаць, і запазычанасці па заработнай плаце вярнуць, і, урэшце, бачыць нават у скарачэнцах людзей.

Семнаццаць жанчын падалі іскавыя заявы ў суд з патрабаваннямі аднавіць на рабоце, вярнуць грашовыя запазычанасці, кампенсаваць маральны ўрон. Пасля адна з гэтай групы сваю заяву забрала. Чалавека можна зразумець. Муж на заводзе яшчэ працуе. Астатнія ў ходзе судовага разбіральніцтва адмовіліся ад патрабаванняў аднавіць іх на рабоце. Усё адно нам не дадуць там працаваць, ды і няма ніякага жадання вяртацца туды, дзе так па-свінску з намі паступілі, – гаварылі яны карэспандэнту ў перпапынку судовага пасяджэння.

Суд палічыў слушнымі прэтэнзіі зволненых работніц. Ён прызнаў, што работніцы былі ўведзеныя ў зман і запатрабаваў выплаціць кожнай кампенсацыю ў памеры 10-разовага сярэдняга заработку (ад 133 да 198 тысяч рублёў), плюс 100 тысяч за маральны ўрон кожнай і ў дадатак суму за затрымку разліку (ад 17 да 25 тысяч). У сярэднім – каля 300 тысяч рублёў кожнай жанчыне.

Акрамя гэтага, адміністрацыя завода выплаціць дзяржпошліну ў памеры 357 тысяч рублёў.

Рашэнне гарадскога суда можа быць абскарджана ў 10-дзённы тэрмін у Мінскім абласным судзе.

### Пастскрыптум

Усе шаснаццаць прасілі, каб у прэсе не згадваліся іх прозвішчы, бо яны баяцца "чорнай пячаткі", з якой не бяруць на работу. Усе знаходзяцца на ўліку у цэнтры занятасці – біржы працы. Толькі адна, былы інжынер, уладкавала сваё жыццё. Працуе. Прадаўцом квасу. На сезон.

Ні адна не хоча ўспамінаць тое, што адбылося. Баяцца паўторнага разгляду справы ў абласным судзе. Не з-за магчымага перагляду вынікаў справы. А з-за таго, што яшчэ раз прыйдзецца прайсці праз кашмар, хай нават і ва ўспамінах.

Дваццаць адзін чалавек са зволненых у той кампаніі сатысфакцыі не захацелі. Пакуль. Прэцэдэнту не было.

На апошнім пашыраным пасяджэнні прафсаюзнага камітэта завода, дзе прагучала не адно разгневанае слова ў адрас адміністрацыі прадпрыемства, рабочыя хацелі паглядзець у вочы дырэктару «Спадарожніка» Уладзіміру Шпакаву. Той быў заняты. Рыхтаваў выступленне на пасяджэнне гарвыканкома пра выйсце завода з крызісу.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ,**
**Юрый КАРПІЦКІ.**



### Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## Ці чулі вы пра іскавую заяву работнікаў «Спадарожніка»?



– Пра судовае пасяджэнне не чуў. Добра, што рабочыя адсудзілі свае грошы. На іх месцы і я, і мае знаёмыя зрабілі б таксама, мы змагаемся за свае правы.

**Міхаіл Мядзведзеў, механік рэфцягніка**



– Я быў на працэсе. Не разлічваў на такі вынік. Галоўнае нават не грошы, а рашэнне на карысць рабочых. Чуў, што пойдзе ў суд другая "хваля" работнікаў "Спадарожніка".

Пра магчымую апеляцыю. Для завода сума іску непад'ёмная, таму апеляцыя дасць магчымасць адцягнуць плацяжы, але другое паражэнне запар будзе катастрафічным.

Лічу, што грамадскасць павінна ведаць, хто рэкамендаваў кандыдатуру цяперашняга дырэктара.

**Вадзім Анціпаў, пенсіянер, больш за 25 год адпрацаваў на "Спадарожніку".**



– Рада, што ў Маладзечне ёсць суддзі, якія вынеслі рашэнне на карысць рабочых. Хаця я пакуль сумняваюся, што і яно ўвойдзе ў сілу. Мяркую, за гэтым будуць і іншыя іскі. "Спадарожнік" на апеляцыю не падасць, бо не захоча яшчэ большай пагалоскі.

**Марына Чаеўская, выхавацель.**



– Прачытаў пра працэс у "РГ". Лічу, што сама дзяржава падштурхоўвае прадпрыемствы на масавыя скарачэнні, у цяперашніх умовах цяжка ўтрымліваць масу рабочых. Яшчэ трэба ўлічваць, што "Спадарожнік" раней працаваў на заказ. Таму не бярыся меркаваць, хто паступіў правільна, – адміністрацыя ці рабочыя.

**Аляксандр Вайтовіч, прадпрымальнік.**



– Чытаў пра працэс, хутчэй за ўсё, у "РГ". Цяпер паўсюль бардак, таму не здзівіўся рашэнню рабочых падаць у суд. "Спадарожнік" падасць на апеляцыю, асабліва калі ў яго ёсць на гэта грошы.

**Ігар Лукша, станочнік АТ "Забудова".**



– Звычайна слухаю мясцовае радыё, але неяк прапусціла гэтую справу. Я лічу, што цудоўна, калі работніцы не пабаяліся пайсці ў суд, і рада, што яны перамаглі.

Шмат праблем з-за таго, што мы не ведаем сваіх правоў. Але цяпер нам будзе навука.

**Ірына Камышава, актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра.**

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ТАЛЕНТ

# 10-гадовы талент

**МАЛАДЗЕЧНА. Мішу Ялецкаму – усяго 10 год. Ён вучыцца ў сектары педагагічнай практыкі музвучылішча імя Агінскага. Жыве ў музычнай сям'і: бацька – піяніст, маці – баяністка, выкладчыца музвучылішча, старэйшы брат Павел выступаў з маладзечанскім сімфанічным аркестрам, цяпер вучыцца ў маскоўскай кансерваторыі імя Чайкоўскага.**

Міша сёлета атрымаў перамогу (яму прысудзілі гран-пры) у міжнародным конкурсе піяністаў імя Баха ў Віцебску. Ён піша музыку, пачынае супрацоўнічаць з сімфанічным аркестрам, рыхтуецца да выступлення ў Белдзяржфілармоніі (канцэрт ля–мажор для фартэпіяна з аркестрам).

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Дзмітрыя Харытонава.

Міша Ялецкі падчас выступлення перад гасцямі маладзечанскага музычнага вучылішча.

■ МЕДЫЦЫНА

# Юбілейны летнік лекараў

**МЯДЗЕЛ. "Ну і суседзі ў нас! Як гэта яны адпачываюць без гарэлкі ды дыскатэкі пры святле фар? Дакладна, секта якая!" – так, мабыць, думаў нехта з адпачываючых на беразе возера Мястра бліз Качарог.**

Не, гэта была не секта. У дзесяты раз на Мядзельшчыне сабраліся прыхільнікі традыцыйнай (народнай) медыцыны. Сярод іх лекары (псіхолагі, біяэнергетыкі, траўнікі, спецыялісты па масажы) і тыя, хто проста мае цікавасць да гэтых навук. Бадай, найбольш іх і з'ехалася гэтым разам: у асобныя дні ў палатачным гарадку кватаравала да 160 чалавек. Прыехалі з Беларусі, Прыбалтыкі, Расіі (і з Урала сюды дабраліся), Германіі. А **Дарына** – нават з Чэхіі. Праўда, ехала яна не адтуль, а з Масквы – там цяпер жыве і працуе.

– Мне расказалі, што тут збіраюцца адкрытыя, вельмі цікавыя людзі. І мне ў летніку спадабалася: поўная свабода ў зносінах, каштоўныя веды, адасабленне з прыродай.

**Віктар** і **Каншаім Гуляевы** пастаянныя ўдзельнікі гэтага семінара. Раней ездзілі сюды з Казахстана, цяпер з Баранавіч.

– Мы цэлы год яго чакаем. Тут сустракаюцца сябры па інтарэсах, прыязджаем павучыцца, абмяняцца ведамі, пасядзець ля вогнішча... А галоўная мэта – здароўе: маё і тых, хто побач са мной.

Сёлета вялікая ўвага да летніка была з боку журналістаў. Наведаліся карэспандэнты некалькіх газет, здымачная група расійскага канала "ТВ-цэнтр". Таксама адразу пыталіся:

– Што ў вас за секта?

Калі пабылі некалькі гадзін, думкі змяніліся:

– Мы ад вас "апупелі".

Для тых, хто прыехаў, усё было, як звычайна: лекцыі, заняткі, абмен досведам – кожны з лекараў расказвае і паказвае, чым валодае.

Харчаваліся разам, з паходнай кухні. У цэнтры летніка вісела своеасаблівае меню, дакладных страў там не было, але ж пазначана, чым лепш у гэты дзень падсілкоўвацца. Вось, напрыклад, пра пятніцу: "Дзень Венеры. Можна есці салодкія стравы, любыя кашы, фрукты. Пазбягаць яек, рыбы, мяса, грыбоў, вострых страў". Такіх парад імкнуліся прытрымлівацца. Атрымлівацца, што з такога пункту погляду найлепшы дзень – нядзеля. Напісана, што "арганізм у гэты дзень здольны засвойваць усё, што ні з'ясі".

Любяць у гэтым летніку святы і дні нараджэння сяброў. Нясуць падарункі, у каго што ёсць: хто грыбы, хто кавалак крэмнію. Быў я на прыканцы семінара, нехта ўжо і ад'язджаў дахаты. Праводзіны былі своеасаблівыя: пад акардэон, пад гукі "Развітання славянкі".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КРАЯЗНАЎСТВА

## Есць ідэя

МЯДЗЕЛ. Мастак, сябра творчай суполкі **Алесь Цыркуноў** падчас вандроўкі на сумежжы Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў натрапіў на магілу Фларыяна Даноўскага – патрыёта, удзельніка двух паўстанняў, у тым ліку, і пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Магілку разам з мясцовымі жыхарамі прыбралі, памаліліся ля яе за палеглых.

У 2002 годзе спаўняецца 100 год з дня смерці Ф. Даноўскага. Мастак лічыць, што дату гэтую трэба адзначыць годна. Хто падтрымлівае гэтую ідэю, звяртаюцца да Алеся Цыркунова ў вёску Чэхі Нарачанскага сельсавета.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ АХОВА ПРАЦЫ

## Лепш за ўсіх ахоўваюць працу на камбінаце хлебапрадуктаў

МАЛАДЗЕЧНА. Падведзены вынікі агляду–конкурсу па ахове працы сярод прамысловых прадпрыемстваў горада.

У тройцы лепшых апынуліся ААТ "Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў", Маладзечанскае вытворчае унітарнае прадпрыемства "Энва" (былы БелТіЗ), фабрыка мастацкіх вырабаў.

**Аддзел інфармацыі.**

■ «РГ»–СТАТЫСТЫКА

## За ліпень беспрацоўных паменшала

| | Колькасць беспрацоўных на 1 жніўня | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1181 (-25) чал. | 2,0% |
| Маладзечанскі раён | 187 (-16) чал. | 0,8% |
| Астравецкі раён | 359 (-5) чал. | 2,4% |
| Ашмянскі раён | 140 (-1) чал. | 0,8% |
| Валожынскі раён | 175 (0) чал. | 0,9% |
| Вілейскі раён | 443 (-9) чал. | 1,4% |
| Мядзельскі раён | 218 (-9) чал. | 1,2% |
| Смаргонскі раён | 1294 (-22) чал. | 3,8% |
| **Усяго па рэгіёне** | 3997 (-87) чал. | |

У дужках паказана змяненне колькасці па стане на ліпень.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СУСТРЭЧЫ

# Крывічы – пуп зямлі для дэпутата

**Дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання Уладзімір Станкевіч пасля выхаду на пенсію (а яна ў яго ранняя, "міліцэйская", быў нават начальнікам Маладзечанскага гаррайаддзела ўнутраных спраў) пасяліўся ў родных Крывічах.**

– Я аб'ездзіў шмат краін, я без свайго мястэчка не магу. Калі хачу адпачыць, то толькі сюды і еду. Для мяне Крывічы – што пуп зямлі. Быў у ЗША 18 дзён, дык я ні па чым так не сумаваў, як па Крывічах – хоць бы на гадзіну сюды, а потым можна зноўку ў Амерыку яшчэ на столькі, – гаворыць былы дэпутат.

Яго словам верылі: у "гэтае лепшае месца на свеце" прыязджаў адпачываць Генадзь Карпенка, ды і цяпер наведваюцца сябры па Вярхоўным Савеце.

А мясцовыя жыхары па старой памяці (калісьці пачынаў тут участковым) звяртаюцца часам да Станкевіча па дапамогу. Калі тод таму вымагальнікі "наехалі" на мясцовага маладога камерсанта, то дэпутат дапамог (трох!) затрымаць.

А да палітыкі Уладзімір Станкевіч больш не звяртаецца. Не мае даверу ні да большасці з цяперашняй апазіцыі, ні, тым болей, да ўладаў. Ды ўвогуле, найбольшай сваёй памылкай лічыць тое, што калісьці звязаўся з палітыкай. Атрымалася гэта зусім выпадкова. Улады цягнулі тады ў дэпутаты па Мядзельскай акрузе другога сакратара ЦК КПБ Ігрунова і хацелі зрабіць выбары безальтэрнатыўнымі. Але заўпарціліся работнікі аўтапарка, і закарцела ім вылучыць абавязкова юрыста. Адзін адмовіўся, прапанавалі Станкевічу – той згадзіўся. Гаворыць, са злосці, што камуністы хочуць усё запаланіць. Так і стаў дэпутатам. А цяпер лічыць, што ў палітыцы павінны працаваць людзі з поўнай – нават вялікай – доляй цынізму. Таму лепш на рыбалку ці паляванне схадзіць. Вось пра гэта мог бы гадзінамі расказваць. А палітыка – гары яна гарам. Вось толькі Беларускае тэлебачанне былы дэпутат не глядзіць – прынцыпова.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СУСТРЭЧЫ

# Прыезд землякоў–палякаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Нашы землякі польскага паходжання, якія калісьці нарадзіліся і ўзгадаваліся тут, а потым апынуліся за межамі Беларусі, па запрашэнні маладзечанскіх касцёла Святога Юзафа і гарвыканкома прыехалі на некалькі дзён у Маладзечна. Тадэвуш Леська, Здзіслаў Бельскі з жонкай Ганнай, Антоні Дудко, Марыя Рыгак-Вісьнёўска, Яніна Кеш жывуць цяпер у Польшчы, Галіна Мюлер-Балінская – у Германіі.**

Лёс кожнага з іх складаўся нялёгка. Часам – драматычна. Некаторыя прайшлі дэпартацыю і Сібір. Але цяпер яны найбольш успаміналі далёкія перадваенныя гады, калі тут раслі і вучыліся.

Адным з цэнтральных пунктаў наведвання на радзіме стала мястэчка Лебедзева, адкуль паходзіць большасць тых, хто прыехаў. Сустрэчу ў Лебедзеве арганізавалі лебядзянкі Галіна Дзедзюль і Яніна Мінькоўская. Госці пабывалі на лебедзеўскіх могілках, зрабілі ахвяраванне на будаўніцтва касцёла Сэрца пана Езуса. Будаўніцтва касцёла дазволіць аднавіць святыню, якая калісьці месцілася ў Лебедзеве, але не перажыла часы бальшавізму.

Наведалі госці таксама памяшканне былой гімназіі, у якой знаходзіцца цяпер склад станказавода. Тут яны некалі сядзелі за партамі. Пазнавалі класныя пакоі, вокны...

У сераду нашы землякі з'ездзілі да абраза Маткі божай Будслаўскай.

Учора раніцай госці выехалі дадому.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**





## Слова развітання

### *Сымон Антонавіч Дзяніс*



Не стала шчыра аддана нашай Бацькаўшчыне, стрыманага, працалюбівага, надзвычай добрага чалавека – Сымона Дзяніса. Гэта яго высілкамі на месцы зруйнаванай камуністамі Насілаўскай праваслаўнай царквы і мясцовых могілак летась была збудавана памятная капліца. Гэта з яго дапамогай я здабываў шмат краязнаўчых матэрыялаў, у тым ліку, датычных Лебедзеўскага антыбальшавіцкага падполля і Шталага №322.

Ён любіў Беларусь, ён верыў у яе будучае вольнае і заможнае жыццё і як мог спрыяў гэтаму.

Спі спакойна, любы наш Сымон Антонавіч, няхай табе родная насілаўская зямля будзе пухам!

**Алесь ЦАДКО.**

■ ДНІ



6 жніўня – **160 год з дня нараджэння Альгерда Абуховіча** (1840–1898), беларускага пісьменніка.

**Дзень чыгуначніка**

7 жніўня – **90 год з дня нараджэння Я. Ермаловіча** (1910–1987), беларускага пісьменніка.

**90 год з дня нараджэння Г. Цітовіча** (1910–1986), беларускага этнамузыказнаўцы, харавога дырыжора, народнага артыста СССР, народнага артыста Беларусі.

9 жніўня – **90 год з дня нараджэння Л. Геніюш** (1910–1983), беларускай паэткі.

10 жніўня – **80 год таму** (1920) у Мінску **адкрыўся Беларускі трэці дзяржаўны тэатр** (БДТ–3)

# Паравознае мінулае горада



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Цяпер на гэты паравоз можна толькі паглядзець.

**МАЛАДЗЕЧНА. 130 год таму каля горада "...снавалі падводы са жвірам, пяском, каменнямі – будавалася Лібава–Роменская чыгунка. Яна ўвайшла ў лік дзеючых у 1873 годзе. Працавалі беларусы цяжка, але з ахвотай, бо было дзе зарабіць капейку...".**

Так пісаў пра маладзечанскую чыгунку вядомы краязнаўца Генадзь Каханоўскі.

Каб азнаёміць чытачоў з рарытэтамі чыгункі, мы звярнуліся да начальніка лакаматыўнага дэпо станцыі Маладзечна **Леаніда Караля**.

– Са старой тэхнікі ў нас засталіся толькі чатыры паравозы, якія і цяпер у рабочым стане. Тры з іх прадстаўляюць серыю "Р", адзін – серыю "Л". Астатнія ўжо парэзалі на металалом альбо перагналі на станцыі Койданава і Фаніпаль, дзе яны знайшлі сабе прытулак. Але цяпер рэзаць даражэй, чым каштуе металалом. Таму іх выкарыстоўваюць як кацельні. На заводзе жалезабетонных вырабаў, напрыклад. У такім выглядзе яны і адзначаць 100-ю гадавіну нашай станцыі, якая будзе святкавацца ў 2003 годзе. А каб ушанаваць памяць аб тэхніцы і людзях, якія на ёй працавалі, мы плануем зрабіць музей нашай станцыі. А відарыс каля нашага адміністрацыйнага будынка ўпрыгожыць помнік, на якім будзе змешчаны адзін з ацалелых паравозаў. Яго ўстаноўка будзе прысвечаная тым людзям, якія вазілі, возяць і будуць вазіць нашых жыхароў па краіне незалежна ад часу і дакладна па раскладзе.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ЗАРПЛАТА

## Прафсаюз патрабуе ад урада пагасіць запазычанасць па выплаце адпускных і зарплаты настаўнікам

**МІНСК. Старшыня Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамара Чобатава накіравала прэм'ер-міністру Беларусі Уладзіміру Ярмошыну ліст з патрабаваннем пагасіць даўгі настаўнікам.**

У лісце паведамляецца, што рашэнне па пагашэнні запазычанасці работнікам адукацыі да 20 ліпеня, якое было прынята на пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях 10 ліпеня, не выканана. Агульная сума даўгоў настаўнікам на 21 ліпеня склала 3 мільярды 512 мільёнаў: з іх зарплата за чэрвень – 1 мільярд 52 мільёны, адпускныя за ліпень – 2 мільярды 496,3 мільёна. У прафсаюзныя органы паступаюць шматлікія лісты аб вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы настаўнікаў: некаторыя з іх з-за адсутнасці грошай вымушаныя вярнуцца з адпачынкаў на рабочыя месцы. Такім чынам, адзначаецца ў лісце, «па віне органаў улады настаўнікі пазбаўленыя магчымасці адпачынку і аздараўлення».

Прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі «заяўляе аб грубейшым парушэнні канстытуцыйных правоў работнікаў адукацыі». «У вачах настаўніцтва дзяржава канчаткова губляе свой сацыяльны статус», – падкрэсліваецца ў лісце.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## У непасрэднай блізкасці ад дзяржаўнай мяжы Беларусі памежнікі знаходзяць прыхаваныя буйныя партыі цукру

АСТРАВЕЦ. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, на працягу толькі двух дзён у раёне Кемялішкаў памежнікі Смаргонскага пагранатрада знайшлі спачатку прычэп да легкавога аўтамабіля «Зубраня», запоўнены мяшкамі з цукрам, а затым і цэлы склад.

У прычэпе знаходзілася 28 мяшкоў цукру па 50 кг у кожным, у тайніку – 52 мяшкі. Калі зыходзіць з кошту 1 кілаграма цукру ў дзяржгандлі, то агульны кошт падрыхтаванага да кантрабанднага перамяшчэння праз мяжу цукру складае прыкладна 1 мільён 600 тысяч рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 27 ліпеня | 3 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 765,00 руб. | 795,00 руб. |
| Нямецкая марка | 368,82 руб. | 372,52 руб. |
| Літ | 191,27 руб. | 198,70 руб. |
| Расійскі рубель | 27,68 руб. | 28,57 руб. |
| Злоты | 178,45 руб. | 181,84 руб. |
| ЕЎРА | 721,36 руб. | 728,58 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 980 – 1050 руб. | 990 – 1010 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 26.07 | 02.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1350 | 1350 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4687 | 4522 |
| Сасіскі, 1 кг | 1580 | 1495 |
| Рыс, 1 кг | 340 | 340 |
| Грэчка, 1 кг | 560 | 610 |
| Цукар, 1 кг | 480 | 475 |
| Алей, 1 л | 700 | 690 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | 380 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 280 | 290 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 260 | 280 |
| Лімоны, 1 кг | 850 | 950 |
| Апельсіны, 1 кг | 530 | 530 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 300 | 250 |
| Капуста, 1 кг | 100 | 100 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 800 | 700 |
| Масла, 1 кг | 1600 | 1600 |
| Тварог, 1 кг | 400 | 500 |
| Малако, 1,5 л | 200 | 200 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 480 |
| Бульба маладая, малое вядро | 500 | 500 |
| Морква маладая, 1 кг | 400 | 250 |
| Персікі, 1 кг | 950 | 850 |
| Абрыкосы, малое вядро | | 3000 |
| Маліны, малое вядро | 5000 | 3000 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 1200 | 1500 |
| Агрэст, малое вядро | 3000 | 2000 |
| Чарніцы, малое вядро | 4000 | 4000 |
| Вішня, малое вядро | 2400 | 3000 |
| Алыча, малое вядро | | 1500 |
| Агуркі, 1 кг | 200 | 200 |
| Памідоры, 1 кг | 400 | 350 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 200 |
| Грушы, 1 кг | | 700 |

■ НАШ КАМЕНТАРЫЙ

# Амністыя–2000: тэрыторыя ўплыву

14 ліпеня падпісаны Закон "Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія здзейснілі злачынствы". Закон уступіў у сілу з дня яго апублікавання – з 21 ліпеня 2000 года.

Амністыю чакалі яшчэ ў маі 2000 года, прыблізна, да Дня Перамогі. Але нацыянальны сход разгледзеў і адобрыў законапраект толькі ў чэрвені. Таму чакалі амністыю ўжо да іншага свята – Дня Рэспублікі.

Доўгачаканым гэты закон стаў таму, што каля 40% насельніцтва краіны або прыцягвалася да адказнасці за здзяйсненне злачынстваў, або нехта з блізкіх сваякоў пабываў на лаўцы падсудных. У Беларусі каля 590 зняволеных на 100 тысяч насельніцтва. Па гэтым паказчыку мы займаем трэцяе месца ў свеце. Цяпер у месцах пазбаўлення волі ўтрымліваецца каля 47 тысяч чалавек, сярод якіх 42,3 тысячы мужчын, 3 тысячы жанчын, 1,7 тысячы непаўналетніх, у тым ліку, 70 дзяўчат. Каля 20 тысяч – ва ўзросце да 30 год. Акрамя гэтага, яшчэ 12 тысяч чалавек утрымліваецца ў следчых ізалятарах у чаканні судовых прыгавораў.

Адна з прычын неабходнасці амністыі – перапоўненасць месцаў зняволення, якая складае ў калоніях 64%, у следчых ізалятарах 39%, у жаночых калоніях – 130%. Парушэнні санітарных нормаў утрымання прыводзяць да захворванняў. Сярод асуджаных каля 700 чалавек ВІЧ–інфіцыраваныя, каля 2300 чалавек пакутуюць на адкрытую форму туберкулёзу.

Другая прычына – вялікія затраты дзяржавы на ўтрыманне зняволеных. Штомесячна на 1 зняволенага выдаткоўваецца каля 18 тыс. рублёў. У той жа час у працоўным працэсе ўдзельнічае толькі 49% асуджаных. А гэта адмоўна адбіваецца на пакрыцці выдаткаў на забеспячэнне, на правядзенне вылічванняў з зарплат асуджаных па выканаўчых лістах, на працэсе перавыхавання.

Трэцяя прычына – у месцах пазбаўлення волі ўтрымліваецца шмат тых, хто здзейсніў злачынствы, якія не ўяўляюць сабой вялікай грамадскай небяспекі. Не заўсёды была неабходнасць пазбаўляць волі тых, хто ўпершыню здзейсніў злачынства.

Амністыя распаўсюджваецца на злачынствы, здзейсненыя да 21 ліпеня 2000 года. Прымяняецца амністыя на працягу 6 месяцаў. Вінаватыя будуць поўнасцю або часткова вызваленыя ад пакарання за ўчыненыя злачынствы. Следчыя будуць вырашаць пытанне аб прымяненні амністыі ў адносінах да тых, чые справы расследуюцца. Суддзі – у адносінах да тых, чые справы знаходзяцца ў стадыі судовага разгляду. Адміністрацыя месцаў пазбаўлення волі – у адносінах да асуджаных на пазбаўленне волі. Мясцовыя аддзелы ўнутраных спраў – у адносінах да асуджаных да пакаранняў, не звязаных з пазбаўленнем волі.

Мяркуецца, што з месцаў пазбаўлення волі па амністыі будзе вызвалена каля 10700 чалавек, са спецкамендатур – каля 2 тысяч чалавек. У адносінах да 21 тысячы чалавек тэрмін пакарання будзе скарочаны на 1 год. А агульная сума эканоміі фінансавых сродкаў складзе каля 1,1 мільярда рублёў.

Ад пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі і не звязанага з пазбаўленнем волі за злачынствы, якія не ўяўляюць сабой вялікай грамадскай небяспекі, будуць вызваленыя ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, а таксама тыя, хто атрымаў раненні ў перыяд ваеннай службы ў войсках або ў час службы ў праваахоўных органах, удзельнікі выканання інтэрнацыянальнага абавязку, а таксама ліквідатары наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Ад пакарання таксама будуць вызваленыя цяжарныя жанчыны за злачынствы, што не з'яўляюцца цяжкімі, пенсіянеры, інваліды I і II групы, непаўналетнія.

Хворыя на туберкулёз, анкалагічныя хворыя, а таксама інваліды I і II групы вызваляюцца ад пакарання за цяжкія злачынствы пры ўмове, што яны адбылі не менш за палову тэрміну пакарання.

Ад пакарання за здзяйсненне неасцярожных злачынстваў вызваляюцца асуджаныя на тэрмін да 7 год пры ўмове, што яны адбылі не менш за адну трэцюю назначанага пакарання. Будуць вызваленыя ад пакарання за здзяйсненне цяжкіх злачынстваў асуджаныя на тэрмін да 5 год пры ўмове адбыцця імі не менш за адну трэцюю пакарання. Асуджаныя за крадзяжы ў гэтых выпадках належаць вызваленню ад пакарання пры яшчэ адной умове – поўнае пагашэнне матэрыяльнага ўрону, прычыненага злачынствам.

У той жа час амністыя не прымяняецца да тых, хто здзейсніў дзяржаўныя злачынствы, злачынствы супраць жыцця і здароўя грамадзян, службовыя злачынствы, а таксама супраць правасуддзя, грамадскай бяспекі, вайсковыя злачынствы. Не прымяняецца амністыя да асабліва небяспечных рэцыдывістаў, а таксама да тых, да якіх раней прымянялася амністыя ў 1991–99 гг., да злосных парушальнікаў устаноўленага рэжыму ў час адбыцця пакарання, тых, хто не прайшоў поўны курс прымусовага лячэння ад алкагалізму, наркаманіі або венерычных захворванняў. Не прымяняецца амністыя да тых, хто асуджаны да пажыццёвага зняволення, ці да тых, каму смяротнае пакаранне было замененае на пазбаўленне волі.

Амністыя не павінна паўплываць на крымінагеннае становішча ў грамадстве. Статыстыка сведчыць, што малы працэнт вызваленых па амністыі зноў здзяйсняе злачынствы.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

## Злачынцаў чакае пазбаўленне волі да 5 год.

### Калі іх знойдуць, а суд дакажа віну

**МАЛАДЗЕЧНА. З 22 ліпеня заведзеная крымінальная справа па факце вандалізму на старых гарадскіх могілках. Следчы Пётр Варачкоў, які вядзе справу пра вандалізм на могілках, гаворыць, што інфармацыя па падазроных ёсць, але ў інтарэсах следства яе ён не выказвае. Матывам дзеянняў злачынцаў ён лічыць хуліганскія пабуджэнні.**

Справа мае вялікі грамадскі рэзананс і стаіць на кантролі начальніка следчага аддзела па Маладзечанскім раёне Упраўлення следчага камітэта пры МУС РБ **Анатоля Габруковіча**. Штодня складаецца план для работнікаў следчай і аператыўнай груп.

Адна з папярэдніх версій – непаўналетнія.

Адпрацоўваецца версія, што гэта зрабілі раней судзімыя (іх у тым раёне даволі шмат, ёсць і такія, што адбывалі пакаранне за аналагічныя правапарушэнні).

Была версія і пра "сатаністаў", якая адпрацоўвалася на пачатковым этапе, але інфармацыі, якая пацвярджала б такі ход падзей, няма.

Устаноўлена, што па помніках білі нагамі, ламаліся яны ад удару аб каменне пры падзенні. Ніводнага адбітка не захавалася, што не дзіўна пры такім матэрыяле. Няма і ніводнага сведкі здарэння.

Прайшло амаль два тыдні з дня вандалізму на маладзечанскіх могілках, аднак следчыя альбо сапраўды не хочуць дзяліцца інфармацыяй з грамадскасцю, альбо яе проста не маюць. Невыпадкова органы аховы правапарадку звяртаюцца па дапамогу да тых, хто пацярпеў пры здарэнні або нешта ведае пра выканаўцаў. Тэлефануйце ў Маладзечне 76041.

Рэдакцыя «РГ», у сваю чаргу, звяртае ўвагу чытачоў на тое, што прыведзеныя версіі (акрамя, хіба, «сатаністаў») маюць слабое месца: «проста так», як падлеткі ці раней судзімыя, можна зламаць два, пяць, няхай дзесяць помнікаў. Але ж не 56?!

Чаму б не разгледзець варыянт, па якім акт вандалізму быў выгадны тым людзям, якія «кормяцца» ад вырабу і продажу надмагільных помнікаў? Маем на ўвазе не работнікаў адпаведных службаў і прадпрыемстваў, а менавіта «шэрых кардыналаў».

Пакуль злачынцаў не знойдуць, помнікі людзям давядзецца ўзнаўляць за свой кошт.

**Юрый КАРПІЦКІ, аддзел інфармацыі.**

■ НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Людас Румбуціс: «Павінны справіцца сваімі сіламі»

**– Дайце, калі ласка, сваю ацэнку першаму кругу. Наколькі матэрыяльнае, фінансавае становішча каманды адпавядае яе лідзіруючай пазіцыі?**

– Некаторыя сапернікі, у прыватнасці, "Свіслач-Дах", "Лунінец", "Граніт" ды і "Нёман", маюць лепшыя ўмовы. У нашую ж каманду гульцоў прыцягвае магчымасць рабіць агульную пераможную справу, атрымаць якасную падрыхтоўку для сваёй далейшай кар'еры. Прычым, акрамя Шаўрова, Лукіна, Мігаса і Сысоя, усе астатнія знаходзяцца на кантрактах, а значыць, звязваюць сваю будучыню з "Маладзечнам". Харчаванне і пражыванне ў нас было нармальнае, форму закупілі, што называецца, ушчыльную. Галоўная праблема – дзе трэніравацца. На рэканструкцыю поля гарадскога стадыёна цяпер працуе ўвесь горад, і парушаць тэхналогію нельга. На купінах стадыёна ДЮСШ зламаў нагу Турчыновіч. Калі спецыялізаваная футбольная ўстанова не мае нармальнага поля, дык што казаць пра Заскавічы, пра стадыён СШ №5. Ужо была нарада ў кіраўніцтва горада, дзе ставілася пытанне да кіраўніцтва ДЮСШ.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Людас Румбуціс пасля матча з «Лунінцам» у Чысці. Побач з ім – тэлевядучы Аляксей Доваль.

**– Як выглядала каманда ў чэмпіянаце на фоне сапернікаў? Ці заканамерны існуючы пяціачковы адрыў? Што скажаце пра асобных гульцоў?**

– Першыя два матчы футбалісты прыціраліся да агульнакаманднай гульні, потым усё ішло нармальна да таго часу, пакуль не з'явіліся кадравыя праблемы. У пасіў сабе можам запісаць матчы з "Оршай" і "Нёманам". На фінішы круга не хапала ў паўабароне Багайчука і Мігаса, гульню на сябе цягнулі Міхалёў і Бычкоўскі. Нападзенне нашае было лепшым у лізе. Добра выглядала абарона. Можна выдзеліць Рагуновіча і Кабельскага, якія пачалі падрыхтоўку ў лютым, таму мелі перавагу над партнёрамі. Мы цяпер працуем у рэжыме двухразовых трэніровак, трэба набіраць кандыцыі, што не паспелі вімою. У плане кадравага папаўнення дапаможа "Забудова", хаця ў гэтых хлопцаў праблем з функцыяналкай яшчэ больш.

**– Як рыхтуецеся да пачатку другога круга? Ці будзем выйграваць чэмпіянат?**

– Было чатыры выхадныя дні, а цяпер – працаваць і яшчэ раз працаваць. У панядзелак кантрольны матч з мазырскай "Славіяй" у Стайках. Думаю, усё ў нас атрымаецца, каб толькі не пагоршыліся праблемы са складам. Павінны справіцца сваімі сіламі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНТРАКТ

# Маладзечанцы перамагаюць лідэра вышэйшай лігі

**«Маладзечна»–«Славія» (Мазыр) 2:1**

**Галы**: Міхалёў (23), Млечка (84); 55.

**Склад**: Рубацкі, Рагуновіч, Муравейнікаў, Дз. Кабельскі, Сысой, Тартоўскі, Бычкоўскі (Міpановіч), Крывіцкі (Лявончык), Міхалёў (Млечка), Сідарэнка (Макрыцкі), Лукін (Дараховіч).

Падчас перапынку ў чэмпіянаце маладзечанцы не адпачываюць, а працуюць. У Стайках яны правялі трэніровачны матч з лідэрам вышэйшай лігі – "Славіяй". Супраць ФК "Маладзечна" мазыране выставілі асноўны склад (не гуляў толькі Дзмітрый Карсакоў). Яны шмат часу валодалі мячом. Не скарысталі магчымасць забіць Стрыпейкіс і Васілюк.

Начальнік ФК "Маладзечна" Юрый Лукін адзначыў, што дзеянні маладзечанцаў былі свабодныя і дынамічныя. Гэтаму найбольш пасадзейнічаў хуткасны нападаючы з каманды "Рагачоў" Сяргей Сідарэнка (1977 г. н.), які пакуль знаходзіцца на праглядзе.

Лік у матчы адкрылі маладзечанцы. Гол атрымаўся незвычайны. Рубацкі выйшаў з варот амаль да сярэдзіны поля, падмануў двух мазыранаў і пасам вывеў на спатканне з галкіперам Віталя Макрыцкага – 1:0. Потым Апанас падлавіў Рубацкага на супрацьходзе і накіраваў мяч у далёкі вугал. А пераможную кропку ў гэтай сустрэчы паставіў Андрэй Млечка.

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

Табло



Фота Юрыя Карпіцкага.

Дзмітрый Дзігілевіч са Смаргоні ў промнях сонца: у апошнім туры ён стаў адметны тым, што забіў адзіны мяч, які змаглі правесці ў вароты сапернікаў дзве каманды рэгіёна.

■ КОНКУРСЫ

# Футбольная віктарына

**Падводзім вынікі чацвертага, заключнага тура футбольнай віктарыны «РГ». Спачатку правільныя адказы:**

Беларускія каманды медалі чэмпіянатаў СССР заваёўвалі 4 разы: у 1954 годзе (бронза, "Спартак" Мінск), 1963 (бронза), 1982 (золата), 1983 (бронза). Тры апошнія разы гэта было мінскае "Дынама".

а)

| год | гульні | Пм | Н | Пж | Р/М | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1954 | 24 | 12 | 6 | 6 | 29:23 | 30 | 3 |
| 1963 | 38 | 18 | 12 | 8 | 47:27 | 48 | 3 |
| 1982 | 34 | 19 | 9 | 6 | 63:35 | 47 | 1 |
| 1983 | 34 | 17 | 9 | 8 | 51:34 | 43 | 3 |

б) **трэнерамі беларускіх каманд на момант трыумфаў былі:**
1954 г. – Міхаіл Базяненкаў
1963 г. – Аляксандр Сявідаў
1982 г. – Эдуард Малафееў
1983 г. – Эдуард Малафееў–Веніямін Арзамасцаў

в) **у лік 33 лепшых футбалістаў уваходзілі** 17 беларускіх гульцоў. Больш за ўсіх вызначыліся Сяргей Алейнікаў – 7 разоў (1982–88 г. г.), Сяргей Гоцманаў (1983–87 г. г.) і Андрэй Зыгмантовіч (1983–85, 88, 89 г. г.) – па 5 разоў.

г) **за гады выступленняў у вышэйшай лізе мінскае "Дынама"** ("Беларусь") **атрымала** прыз імя Рыгора Фядотава – 1982 г., "Агрэсіўнага госця" – 1982 г., "За волю да перамогі" – 1976 (вясна), 1982 г., "Кубак прагрэсу" – 1979, 1982 г., "Граза аўтарытэтаў" – 1986 г., "Справядлівай гульні" – 1961 г., Дзяржкамспорту СССР – 1989 г., лепшаму бамбардзіру – 1967, 1971 г.

Па выніках 4 тура максімальную колькасць – (па 7 балаў) атрымалі віляйчанін **Яўген Вярбіцкі**, маладзечанец **Васіль Канопскі**, смаргонец **Мікалай Кіндра** і **Сяргей Валынец** з Маладзечанскага раёна. У выніку апошняму перашкодзіла затрымка ў першых двух турах, шчаслівы выпадак паказаў на **Яўгена Вярбіцкага**. Галоўны прыз – альбом для наклеек – ваш. Патэлефануйце ў рэдакцыю "РГ".

Дзякуй усім за ўдзел у віктарыне.

**Аляксандр БЯЛЯЕЎ.**

■ ТУРЗЛЕТЫ

**Валожын. 14–16 ліпеня:**
1. Каманда лясгаса (Валожын);
**Астравец. 29–30 ліпеня:**
1. "Вандроўныя сэрцы" (каманда тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання);

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

■ АМАТАРСКІ ФУТБОЛ

МЯДЗЕЛ. У 9–ы раз у вёсцы Нарач праведзены камерцыйны турнір па футболе. Спансіруе яго ўраджэнец вёскі, дырэктар фірмы "БелСан" Валянцін Яцына.

Гулялі мацнейшыя каманды раёна, а перамогу святкавалі футбалісты з Мядзела. У складзе нарачанцаў згуляў і спонсар.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

**30.07 «Дынама-2» (Мінск) – «Забудова» 2:0**

**Галы**: 59, 88.

**Склад**: Мароз, Каўтуноўскі, Міpановіч, Івашкевіч, Млечка, Лявончык (75, Антановіч), Дараховіч, Казяк, Макрыцкі, Філіпаў, Гулевіч (Нядзелька, 84).

**Выдаленне**: Міpановіч (61).

**30.07 «Смаргонь»–РВАР (Мінск) 1:0**

**Гол**: Дзігілевіч (66).

**Склад**: А. Канапелька, Іваноў, Чарнуха, Якубіцкі, Юркевіч, Максіменка, (А. Канапелька, 60), Кукса (Шагойка, 84), Селіванаў, Дзігілевіч, Шпакоўскі (Карабінскі, 67), Відук.

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

# Аляксандр Полаз – чацверты чэмпіён Маладзечанскай Лігі

**Завяршыўся чацверты чэмпіянат Маладзечанскай Лігі Футболпрагнозу. Выніковая табліца:**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1–2. Форд (С. Чурылін)** | **30** | **17** | **5** | **8** | **49:36** | **120** | **56** |
| **1–2. Мідлсбро (А. Полаз)** | **30** | **16** | **8** | **6** | **54:34** | **127** | **56** |
| **3. ФК Казіно (П. Касцянкоў)** | **30** | **16** | **4** | **10** | **54:42** | **123** | **52** |
| 4. Метэор (В. Лужынскі) | 30 | 15 | 4 | 11 | 48:37 | 114 | 49 |
| 5. ФК Рэал (С. Ярук) | 30 | 14 | 7 | 9 | 58:44 | 127 | 49 |
| 6. Інтэр (А. Рудовіч) | 30 | 14 | 5 | 11 | 48:43 | 111 | 47 |
| 7. Мрака (Ю. Карпіцкі) | 30 | 13 | 8 | 9 | 46:40 | 122 | 47 |
| 8. Барбароса (С. Цэлікаў) | 30 | 13 | 8 | 9 | 41:40 | 125 | 47 |
| 9. ХІК (В. Цэлікаў) | 30 | 13 | 7 | 10 | 46:43 | 121 | 46 |
| 10. Гётэборг (Д. Бабровіч) | 30 | 13 | 6 | 11 | 45:39 | 127 | 45 |
| 11. ФК 1978 (У. Лазучонак) | 30 | 13 | 6 | 11 | 45:50 | 107 | 45 |
| 12. Рэал (М. Хадасевіч) | 30 | 11 | 5 | 14 | 50:57 | 109 | 38 |
| 13. САШМ (А. Мельнічэнка) | 30 | 9 | 1 | 20 | 37:49 | 89 | 28 |
| 14. Ліверпуль (М. Кананoвіч) | 30 | 7 | 7 | 16 | 41:49 | 95 | 28 |
| 15. Кайзерслаўтэрн (А. Гаруновіч) | 30 | 6 | 6 | 18 | 37:51 | 104 | 24 |
| 16. Чарцяня (А. Сярболін) | 30 | 5 | 4 | 21 | 25:59 | 90 | 19 |

Кубак МЛФП у серыі да дзвюх перамог атрымаў **Сяргей Ярук** (ФК Рэал), які ў фінале быў мацнейшы за **Валерыя Лужынскага** (Метэор).

Лепшым гульцом сезона 1999/2000 стаў **Сяргей Цэлікаў**. У фінальнай серыі ён перамог **Паўла Касцянкова** 3:0.

Па правілах Лігі, калі прэтэндэнты на першае месца маюць аднолькавую колькасць ачкоў, прызначаецца дадатковы матч. У ім **Аляксандр Полаз** перамог **Сяргея Чурыліна** 2:0 і ўпершыню стаў чэмпіёнам Лігі.

Увосень ён будзе прадстаўляць маладзечанскі цэнтр у Лізе Чэмпіёнаў Саюза Футболпрагнозу Беларусі (СФПБ).

Хто жадае ўзяць удзел у 5 чэмпіянаце МЛФП, напішыце пра сябе ў рэдакцыю "РГ" і ўкладзіце канверт з адваротным адрасам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**05.08 Лунінец – Маладзечна**
У першым крузе 0:0 дома.
**05.08 Забудова – Азерцы (Глыбокае)**
+0=2-1 1-2. У першым крузе 0:1 на выездзе. Пачатак матча а 18-й гадзіне.
**05.08 Дарыда (Мінск) – Смаргонь**
+1=0-0 1-0. У першым крузе 1:0 (Селіванаў) дома.

■ ФУТБОЛ

# Цяпер мы будзем усё ведаць аб правілах

Памеры поля. Даўжыня: 90-120 м. Шырыня: 45-90 м. Міжнародны стандарт адпаведна 100-110 м і 64-75 м.

Памеры варатарскай. 5,5 м ад штангі да бакавой лініі варатарскай, тыя ж самыя 5,5 м ад вонкавай лініі поля да пярэдняй лініі вартарскай.

Памеры штрафной. 16,5 м ад штангі да бакавой лініі штрафной, тыя ж самыя 16,5 м ад вонкавай лініі поля да пярэдняй лініі штрафной.

Даўжыня акружнасці мяча 68-70 сантыметраў, вага – 410-450 грамаў, ціск – 0,6-1,1 атмасферы.

На адлегласці 9 м 15 см ад мяча размяшчаюцца футбалісты пры выкананні стандартных становішчаў.

Гол можна забіць непасрэдна з цэнтра поля і ўдарам ад варот. Не залічваецца гол пасля кідка з аўта. Становішча "па-за гульнёй" не фіксуецца пры ўдары ад варот і пры аўце. Не залічваецца гол, забіты непасрэдна са свабоднага ўдару. Калі мяч са штрафнога альбо са свабоднага залятае ў свае вароты, то каманда-сапернік атрымлівае права на вуглавы.

Мяч пакідае поле, калі цалкам перасякае бакавую альбо вонкавую лінію. Гэта тычыцца і ўзяцця варот.

Фіксуецца становішча "па-за гульнёй" (афсайд), калі футбаліст знаходзіцца бліжэй да лініі варот саперніка, чым мяч і перадапошні гулец саперніка падчас крананння мяча альбо ўдару па мячы кімсьці з яго (атакуючага футбаліста) партнёраў па камандзе. Няма "па-за гульнёй", калі футбаліст знаходзіцца на сваёй палове поля альбо на адной віртуальнай лініі з перадапошнім гульцом сапернікаў. Гульня не спыняецца ў выпадку пасіўнага афсайду, калі футбаліст не ўмешваецца ў гульню, альбо не перашкаджае гуляць саперніку, альбо не атрымлівае перавагу, дзякуючы сваёй пазіцыі.

Штрафны ўдар прызначаецца пры ўдары альбо спробе ўдару саперніка нагою ці рукою, падножцы альбо спробе падножкі; пры скачку, штуршку, затрымцы і нападзенні на саперніка, а таксама за плявок у саперніка; калі футбаліст пры выкананні падкату раней крануўся нагі саперніка, чым мяча; за наўмысную гульню рукою.

Свабодны ўдар прызначаецца (суддзя падняў руку ўверх) пры небяспечнай гульні, за блакіроўку, за перашкоду варатару выкінуць (выбіць) мяч у поле. Свабодным ударам караецца варатар, калі трымае мяч у руках больш за 6 секунд, альбо забірае мяч у рукі пасля паса нагою ад партнёра, ці пасля таго, як выпусціць мяч з рук, але ён (мяч) не кранецца гульца сапернікаў, ці пасля паса партнёра з аўта.

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



# Паварушы мазгамі, №18

Здаровыя былі, шаноўныя!

Зорка Давіда будзе выглядаць так (варыянт):



Другое заданне, дзе дошку трэ было падзяліць на 4 аднолькавыя часткі так, каб у кожнай з іх стаяла па шашцы, рашаецца таксама:



Парадавалі мяне правільнымі адказамі **Жэня Булычаў, Іосіф Кароскік, Андрэй Луцкі, Каця Северына, Сяргей Смалонскі, Сяргей Стрэж, Людміла Кендыш.**

Шчаслівы нумарок з маёй шапкі выпаў на **Сяргея Стрэжа** з Маладзечна. Пан Сяргей, будзьце ласкавы завітаць да нас па цалкам заслужаны прыз і дыплом.

А цяпер заданні наступнага тура. Разгадаўшы іх, ты атрымаеш шанец на прыз і дыплом ад нашай газеты, якія будуць разыграны паміж тымі, хто дакажа сваю кемлівасць.

### Чорная авечка

Гэтая задачка складзеная з дапамогай **Андрэя Луцкага** з Вілейкі. Знайдзі ў гэтай чарадзе чорную авечку – лік, які рэзка адрозніваецца ад іншых нейкімі сваімі ўласцівасцямі. Якія гэта ўласцівасці?




### Рашы, калі ласка

Рашы, калі ласка, арыфметычны рэбус:

РАШЫ
+
КАЛІ
ЛАСКА

### З пошты Якіма

"Якім! Прывітанне яшчэ раз. Ніколькі не крыўдую, што мяне назваў віляйчанінам. Справа ў тым, што ў Вілейцы ёсць таксама Іосіф Іосіфавіч Кароскік. Ён мяне нават не сваяк, але з маіх краёў. Неяк у цягніку дык чуць не памяняліся пашпартамі. Яму, напэўна, прыемна было чытаць, што вы паабяцалі ў якасці выйгрышу паштоўкі. Яго адрас: ...

Наконт заданняў. Мінулы раз я нават і не дасылаў адказу, таму што яно ёсць у кнізе "В царстве смекалки" Ігнацьева. Тэлефанаваў вам у рэдакцыю, хацеў паразмаўляць на гэту тэму. Але мне сказалі, што вас ніколі не бывае ў рэдакцыі. За што вам толькі грошы плацяць?.. Магу падзяліцца некалькімі цікавымі лагічна-гумарыстычнымі задачамі, якія нідзе не друкаваліся. Калі хочаш, заходзь у будні дзень вечарам.

Іосіф Маладзечанскі (Кароскік)."

Шаноўны калега! Я стаў часцей бываць на працоўным месцы. Сапраўды, грошы зарабляць трэба. Абяцаю выйсці на сувязь.

**Якім ПЯРЭЧКА.**

## Гараскоп 7 – 13 жніўня



**Авен**
(21.03–20.04)

Адсутнасць аднастайнасці можа гарантаваць новае сардэчнае захапленне, у якое вы акунецеся з галавой. Нечаканыя перашкоды на рабоце могуць негатыўна сказацца як на настроі, так і на кар'еры.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Вы самі прывыклі зарабляць на жыццё, але ў будучы перыяд ролі некалькі памяняюцца: нядрэнны даход прынясе ваш партнёр па шлюбе. Нават калі гэта жанчына, яе фінансы значна перавысяць "мужчынскія" сумы.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Асцерагайцеся выпадковых знаёмстваў. Не давярайце сакрэтаў дзелавому асяроддзю: магчымая страта канфідэнцыяльнай інфармацыі.



**Рак**
(22.06–23.07)

Будучы перыяд больш спрыяе асабістаму жыццю. Акрамя таго, пасля даволі цяжкага перыяду на службе можна крыху расслабіцца – часовае зацішша.



**Леў**
(24.07–23.08)

Шмат клопатаў і турбот, нават не верыцца, што на дварэ – ваш час. Варта падумаць пра адпачынак, адкласці прынцыпе важных рашэнняў да лепшых часоў. Будучая паездка можа аказацца дастаткова прадукцыйнай.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Калі вы самі не пойдзеце ў адпачынак, то вас літаральна "выпхне" начальства, таму рыхтуйцеся. Дарэчы, менавіта з–за адпачынку магчымыя сур'ёзныя канфлікты ў сям'і.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Магчымае паступленне грошай, прапаноў. Паездка, якую вы нават не планавалі, некалькі памяняе ўяўленне пра дзелавых партнёраў у лепшы бок. Вам будзе шанцаваць у кантактах.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Удача можа ўсміхнуцца тым Скарпіёнам, якія будуюць бізнес-палітыку на абходных манеўрах. Але вось тым, хто атакуе ў лоб, давядзецца сутыкнуцца з каменнай сцяной. Асцярожнасць ва ўсім!



**Стралец**
(23.11–21.12)

Як ні дзіўна, захапленне асабістым жыццём прывядзе да паляпшэння спраў. Працягваецца перыяд, калі вы можаце генерыраваць ідэі, якія прынясуць хуткія даходы. Абвастрэнне хранічных захворванняў.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Двайная гульня, якую вы спрабавалі весці з партнёрам, можа скончыцца паражэннем. Пісьмо або паведамленне ад старога сябра пакліча ў дарогу.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Магчымыя фінансавыя страты: лепш не давайце ў доўг і адмовіцца ад гульняў. У сям'і ў гэты перыяд будзе панаваць гармонія і ўзаемаразуменне. Асабліва парадуюць дзеці.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Вы паспяхова пазбегнеце пастак і сетак, пастаўленых супраццьлеглым полам. Мужчыны з радасцю знойдуць згубленую незалежнасць, жанчыны адправяцца на мора.




Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **7000 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№31 (276) 04.08.2000**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 03.08.2000



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»